

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 37 (220)
Субота, 16 верасня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# АДКРЫЦЦЁ НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЫ

***10 верасня ва ўсіх каталіцкіх храмах Беларусі адбылося адкрыццё нядзельных школ. На святочных лінейках з Божым блаславенствам распачыналі дзеці навучанне ў новым годзе.***

Для хрысціянскіх сямей, дзе падрастаюць дзеці, іх духоўнае развіццё з'яўляецца найбольш актуальным. Неабходна ведаць правільныя адказы на яго пытанні адносна веры, сэнсу жыцця, значэння постаці Ісуса Хрыста ў лёсе чалавека.

У сваім казанні ў часе урачыстай Імшы ксёндз-пробашч Чырвонага касцёла Уладыслаў Завальнюк параўнаў падрастаючае пакаленне са снапамі жыта, якія ў гэтыя дні ўпрыгожваюць алтар святыні. Яны – ужо вынік працы чалавека, які пасадзіў зерне, і з Божай дапамогай сабраў ураджай, не згубіўшы налітых зярнятак у гэтых каласах. Нябачная, цяжкая праца рук чалавечых ператварыла малыя крупінкі «пасадачнага матэрыяла» ў каласы збожжа, якое будзе даваць «хлеб штодзённы» для нашага жыцця.

Так і душы дзяцей. Яны ўжо маюць у сабе зярняткі дабрыні, любові Божай. А ці нальюцца іх сэрцы потым дабрынёй, ведамі, духоўнасцю, каб карыстацца і перадаваць багаты скарб Божай любові далейшым пакаленням, адорваць ім сваіх блізкіх, дзяліцца ім з братамі сваімі? Каб не прайшлі марна гады, каб не зачарствелі душы, каб не загінула зерне дабра і не стала пустацветам, – таму сваіх дзетак і прывялі ў храмы, бацькі і бабулі, старэйшыя браты і сёстры. Тыя, хто рыхтуецца да Першай Камуніі, будуць навучацца ў нядзельнай школе два гады, а іншыя працягнуць сваё духоўнае выханне. Каб па жыцці несці плён сваіх хрысціянскіх здабыткаў, каб не абсыпалася да пары «каласы» ад бязвер'я, расчараванасці, нечаканых паваротаў у гэтым жыцці, каб не стаць духоўным пустазеллем – трэба вельмі многа працаваць, імкнуцца да дасканаласці і святасці. Таму падтрымаць, навучыць, падсказаць, направіць на першых кроках знаёмства з жыццём і прызваныя нядзельныя духоўныя школы пры святынях.

Шмат пытанняў ставіць перад намі жыццё. Вучыцца адказваць на іх будзем заўжды. Дапаможа нам у гэтым удзел у Набажэнствах, Святая Камунія, Сакрамант Пакаяння. І каб надзейным спосабам наблізіцца да паняцця і прыняцця актыўнага ўдзелу ў жыцці Касцёла, сённяшнія дзеткі робяць першыя крокі.

Няхай гэтыя крокі будуць трывалымі, падмацаванымі хрысціянскімі ведамі і духоўна багатымі.



# РАСПАЧЫНАЕЦЦА НОВЫ КАТЭХЕТЫЧНЫ ГОД

***З надыходам верасня школьнікі вяртаюцца за парты, студэнты – ва універсітэцкія аўдыторыі, а ў парафіяльных нядзельных школках распачынаюцца заняткі рэлігіі***

Само слова «катэхізацыя» утворана ад грэцкага дзеяслова katechein, што азначае «навучаць асновам рэлігіі». У нашай краіне ў гады «ваяўнічага атэізму» Касцёл быў пазбаўлены магчымасці навучаць дзяцей праўдам хрысціянскай веры. Таму для бацькоў, якія прыводзяць сваіх дзетак на заняткі рэлігіі і дапамагаюць ім у падрыхтоўцы, гэта з'яўляецца добрай нагодаю паглыбіць і свае асабістыя рэлігійныя веды, умацаваць сваю веру. З-за доўгачасовага рэлігійнага пераследу ў нас і сёння даводзіцца сустракацца з праявамі фармальнага падыходу да рэлігіі, які можна назваць таксама «рытуальным». У гэтай сітуацыі катэхізацыя дапамагае чалавеку пазнаць сутнасць хрысціянскага вучэння, каб у адпаведнасці з ім будаваць свае адносіны да свету і ўсё сваё жыццё, бо менавіта да гэтага скіраваны ўсе касцёльныя абрады. Такім чынам, на катэхетаў – тых, каго Бог паклікаў да абвяшчэння праўдаў веры іншым – кладзецца асабліва вялікая адказнасць.

Напярэдадні новага катэхетычнага года ў мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася сустрэча катэхетаў, падчас якой яны прасілі ў Бога дапамогі ў сваім служэнні. Сустрэчу, у якой бралі ўдзел каля паўсотні асобаў, узначаліў Апостальскі Адмінітратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Антоній Дзям'янка. Ён сказаў катэхетам, якія заданні ўскладае на іх мясцовы Касцёл і чаго ад іх чакае. Біскуп нагадаў, што кожны катэхет – духоўная асоба, манах ці свецкі – абавязкова павінен мець кананічную місію: даручэнне выконваць катэхетычнае служэнне. Гэта абавязвае катэхета ставіцца да свайго служэння не проста як да працы, а як да сапраўднай місіі, даручанай яму Богам і Касцёлам. Біскуп Антоній нагадаў, што катэхізацыя павінна адбывацца з дзіцячага садку і да заканчэння школы. Ён таксама звярнуў увагу прысутных на асаблівую важнасць катэхізацыі маладых, якія рыхтуюцца да прыняцця сакрамэнту сужэнства, у сувязі з крызісам сям'і ў сучасным свеце. Катэхеты атрымалі ад свайго біскупа заданне праводзіць выхаваўчыя сустрэчы з бацькамі дзяцей, якія наведваюць нядзельную школу.

Акрамя біскупа Антонія Дзям'янкі да катэхетаў прамовілі катэхетычныя рэферэнты Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кс. Аляксандр Яшэўскі SDB і сястра Часлава Навіцкая, уршулянка. Яны бліжэй пазнаёмілі катэхетаў з новараспрацаванай праграмай катэхізацыі на наступны навучальны год, а таксама далі агульныя рэкамендацыі адносна катэхетычнай дзейнасці. Падчас святой Імшы з удзелам катэхетаў кс. Аляксандр Яшэўскі SDB прамовіў гамілію, у якой падкрэсліў важнасць катэхізацыі і веліч заданняў, што стаяць перад сучаснымі катэхетамі.

*Catholic.by*

## АБ`ЯВЫ

***Дарагія дзеці і моладзь! Нядзельная школа нашай парафіі адкрыла для вас свае дзверы!***

**Расклад заняткаў у нядзельнай школе**

| Дзень тыдня | Імя і імя па бацьку катэхеткі | Час катэхезы | Клас |
|---|---|---|---|
| Аўторак | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |
| Аўторак | Часлава Чаславаўна | 18.00 | моладзь |
| Серада | Марыя Чаславаўна | 10.00, 18.00 | 1 |
| | | 19.00 | 2 |
| Чацвер | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 1 |
| Субота | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | дзеці 3-6 год |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 09.45 | 1 |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 10.00 | 1 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 10.00 | 2 |
| Нядзеля | Галіна Пятроўна | 10.00 | моладзь |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 12.30 | 2 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 12.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 14.30 | дарослыя |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 15.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 16.00 | «Гасанна» |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 18.00 | 2 |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |

# ЕДИНСТВО ВО ХРИСТЕ

## *« Драгоценной Жемчужине» 14 лет*

*«Костел, даже несмотря на все потери, которые он несет, не перестает с надеждой смотреть в будущее. Надежда эта – знак силы Духа. А сила Духа всегда измеряется мерою Апостольских слов: «Горе мне, если я не благовествую (1Кор 9, 16)».*

*Иоанн Павел II*

История общины «Драгоценная Жемчужина» международного движения «Свет-Жизнь» начинается со встречи руководителя Белорусского ансамбля «Мара» с ксендзом Иренеушем Копачем в Карлсберге в Германии, где ансамбль находился на гастролях. Ксендз Иренеуш получил приглашение в гости в Минск. Он давно мечтал приехать в Беларусь на евангелизацию Востока, откликаясь на призыв Папы Иоанна Павла П о евангелизации всего мира. Охотно принял приглашение и 14 сентября 1992 года приехал в Минск. Вместе с ним приехали братья-поляки Юзэф Желязный, Кшыштоф Желязный, Януш Квасный, словак Михал Ханечек. Начали евангелизацию после Святой Мессы в костеле Возвышения Святого Креста на Кальварии, затем состоялась встреча с людьми во дворце Тракторного завода. Несколько человек, особенно молодежь, горячо откликнулись на призыв принять Иисуса Христа в свое сердце и приняли Его как своего Господа и Спасителя. Они подхватили призыв идти и гласить Евангелие всем людям.

Образовалась небольшая группа, которая впоследствии стала называться «Драгоценная Жемчужина» (Мт 13, 46). Главная задача Общины – евангелизация, свидетельство о любви Иисуса Христа к каждому человеку. В Духе Святом мы объединяемся с нашими братьями во Христе в Беларуси, Германии, Италии, Польше, России, Казахстане, Калининграде и др.

Вот уже 14 лет ксендз Иренеуш Копач – модератор "Драгоценной Жемчужины", бессменный, неутомимый, необходимый, любимый наш пастырь. В 1985 году в Карлсберге он был посвящен в священники для движения «Свет-Жизнь», став учеником и продолжателем слуги Божьего ксендза Франтишка Бляхницкого, основателя этого движения. Услышав сердцем призыв Господа: «Когда



Дух Святой сойдет на вас, вы получите Его мощь и будете свидетелями Моими в Иерусалиме и во всей Иудее, и Самарии, и до края земли» (Деян 1,8), – решил стать миссионером и трудиться на Божией ниве евангелизации.Многие годы рядом с ксендзом Иренеушем делит все трудности и радости мессионерского призвания Юлия Фролова, юной девочкой пришедшая в общину по призыву Божию. Владеет итальянским, польским, немецким, английским языками, не говоря уже о русском и белорусском. Организация всех ОАЗИСОВ, встреч, когда она у нас в Минске, обучение новым песням-молитвам, наполненные духовным содержанием теологически грамотные катехезы – ее вклад в духовное возрастание «Жемчужины».

Невозможно перечислить тех, кто благодаря духовной силе ксендза Иренеуша принял Иисуса Христа в свое сердце, кто возрастает в вере на встречах в «Драгоценной Жемчужине», шагах к христианской зрелости, на ОАЗИСАХ, на реколлекциях.

Огромную, ощутимую помощь ксендзу Иренеушу оказывал светлой памяти ксендз Мечислав Лабяк, с которым ксендз Иренеуш познакомился в Польше и предложил ему поехать в Минск, чтобы полнее заниматься духовным возрастанием членов общины. Ксендз Мечислав принимал участие в молитвенно-евангелизационных встречах, проводил шаги и ОАЗИСЫ Новой Жизни. Вечную память дай ему, Господи!

Любовь Божья действует через ксендза-магистра Владислава Завальнюка в возрождении святынь на Беларуси. Он постоянно добивается организации новых приходов. Так было и с костелом в небольшой деревеньке Синило, где ксендз Владислав предложил включиться в строительство костела и «Драгоценной Жемчужине». Согласились, построили костел, и с тех пор мы постоянно чувствуем ощутимую помощь ксендза-магистра и в Синило, и в костеле св. Симона и св. Елены, и вместе строим Царствие Небесное в людских сердцах.

Радует и дает духовные силы внимание и участие в жизни общины Его Экселенции епископа Антония Демьянко. С его благословения община пополнилась пятью аниматорами, он часто участвует в наиболее значительных мероприятиях общины, на юбилейных встречах, на ОАЗИСАХ.

В своих молитвах мы просим Господа о Божией благодати для Его Экселенции епископа Антония Демьянко, ксендза-магистра Владислава Завальнюка, ксендза-модератора Иренеуша Копача, всех, кто помогает нам гласить Слово Божие, говорить о любви Божией к каждому человеку на земле.

*Алина Гречухина*

# УРАЧЫСТАСЦЬ У БАРЫСАВЕ

***8 верасня Касцёл адзначае свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. З гэтай нагоды ў адной з барысаўскіх парафій, якая носіць такі тытул, адбылася парафіяльная ўрачыстасць, у якой браў удзел Апостальскі Адміністратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Антоній Дзям'янка.***

Падчас урачыстай святой Імшы, у якой бралі ўдзел святары з мясцовых і навакольных парафій, а таксама вялікая колькасць вернікаў, біскуп Антоній прамовіў гамілію, у якой звярнуў увагу на неад'емны абавязак бацькоў рэлігійнага выхавання сваіх дзяцей.:

***1. Гісторыя свята***

Сёння мы адзначаем свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Святое Пісанне нідзе не ўзгадвае пра нараджэнне Марыі. Аднак, традыцыя гаворыць, што Яе бацькамі былі святая Ганна і святы Яўхім. Яны былі пабожнымі юдэямі. Нягледзячы на іх сталы ўзрост, яны не мелі дзяцейі, а ў тыя часы гэта лічылася пакараннем за грахі продкаў. Таму Ганна і Яўхім шчыра прасілі Бога аб дзіцяці. Бог выслухаў іх просьбы і, як узнагароду за іх бязмежны давер Яму, учыніў так, што Ганна нарадзіла дачку Марыю. Ганна тады яшчэ не ведала, што Марыя была беззаганна зачатая і захаваная ад усялякага граху, каб пазней, паслухмяная Божай волі, Яна стала Маці Божай.

У нас, на Беларусі, свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі называюць па-народнаму Багач. Нездарма існуе прымаўка: «Прыйшоў Багач – кідай рагач, бяры сявеньку – сей памаленьку». Людзі найперш хацелі, каб кінутае ў зямлю зерне благаславіла Багародзіца. З пасяўным зернем мяшалі зерне, вылушчанае з каласоў, якія былі разам з кветкамі і зёлкамі асвечаныя ва ўрачыстасць Унебаўзяцця Маці Божай, каб выпрасіць добры ўраджай. У свята Багача ладзілі таксама дажынкі.

***2. Нараджэнне новага стварэння – пакора і падпарадкаванне Божай мудрасці***

Сённяшняе свята нагадвае нам пра тое, што Марыя была звычайным чалавекам. Хоць Яна і была захаваная ад заганы першароднага граху, аднак на працягу ўсяго свайго жыцця мела вольную волю і не была абмежавана ніякім прадвызначэннем. Гэтак жа, як і кожны з нас, Яна мела сваіх бацькоў, расла, бавілася, дапамагала па гаспадарцы, мела знаёмых і сваякоў. Толькі Яе давер, паслухмянасць і поўны веры адказ на Божы голас учынілі, што «будуць праслаўляць Яе ўсе пакаленні».

Хвала Марыі паходзіць з таго, што ўсю сваю надзею Яна ўскладала на Божую Праўду. Можна сказаць, што Божая мудрасць была Яе жыццёвай кіраўніцаю. На многіх абразах Маці Божая паказаная падчас вывучэння Святога Пісання, якое дае «сапраўднае разуменне кожнай створанай рэчы ў яе адносінах да Бога» *(ККК 216)*. Гімн «Magnificat», якім Маці Божая выказвае ўдзячнасць Богу, складаецца з розных урыўкаў Боганатхнёнага тэксту. Марыя была так шчыльна злучаная з Божым словам, што яно перапаўняла Яе памяць, вызначаючы Яе думкі і ўчынкі. Традыцыя Касцёла часта выкарыстоўвала ў адносінах да Марыі найпрыгажэйшыя словы, якія гаварылі пра Мудрасць; у літургіі ж Яна ўслаўляецца і паўстае перад намі як «Сталіца Мудрасці» *(пар. ККК 721)*.

Імя «Марыя» ў габрэйскай мове азначае «пані» і «надзея». Маці Божая паказвае нам, што асаблівую годнасць і надзею на зямное шчасце і вечнае збаўленне мае той, хто штодня кіруецца Божаю Мудрасцю і Евангеллем, таму што Божая Праўда з усёй моцаю падкрэслівае годнасць кожнай чалавечай асобы як Божага дзіцяці,аднаўляе першапачатковае братэрства, вучыць бачыць прыроду і ўсведамляць, што такое праца, дае матывацыю жыць у радасці і добрым настроі, нягледзячы нават на жыццёвыя цяжкасці.




***3. Бацькоўскае заданне рэлігійнага выхавання дзіцяці***

Калі бацькі жадаюць свайму дзіцяці поўнага шчасця, то яны павінны паклапаціцца пра яго рэлігійнае выхаванне. Пачатак новага катэхетычнага года з'яўляецца добраю нагодаю, каб усвядоміць адказнасць бацькоў за маральнае, духоўнае і звышнатуральнае выхаванне сваіх дзяцей. Яно з'яўляецца першасным заданнем бацькоў, ад выканання якога залежыць пачуццё спаўнення сваёй місіі на зямлі. Гэтае выхаваўчае заданне мае такое вялікае значэнне, што яго магчымы недахоп цяжка было б чым-небудзь замяніць...

Распачатае з руплівасцю, з разлікам на Божую дапамогу, яно становіцца жыццёвым багаццем дзяцей, іх капіталам, за які можна набыць шчасце на зямлі і ў вечнасці. Марыя з'яўляецца для ўсіх бацькоў доказам плённасці гэтага шляху. Як раней мы казалі, «будуць праслаўляць Яе ўсе пакаленні» за надзею, ўскладзеную на Бога, і адкрыццё годнасці Божага дзіцяці.

*Catholic.by*

*Працяг у наступным нумары*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 17 ВЕРАСНЯ, 24 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## ЧЫТАННЕ КНІГІ ПРАРОКА ІСАІ

*(Іс 50, 5-9а)*

Госпад Бог адкрыў мне вуха, а я не адпіраўся і не адышоў. Падаў хрыбет мой тым, хто білі, і пашчэнкі мае тым, хто рваў мне бараду. Не засланяў майго твару ад звявагаў і пляўкоў.

Госпад Бог мяне падтрымлівае, таму я не саромеюся, таму трымаю мой твар як крэмній і ведаю, што сораму не спазнаю. Блізка ёсць Той, хто мяне назаве нявінным. Хто адважыцца распачаць спор са мною? Выступім разам! Хто хоча судзіцца са мною? Няхай наблізіцца да мяне! Вось Госпад Бог мой мне дапамагае! Хто ж мяне асудзіць?

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 116А (114), 1-2. 3-4. 5-6. 8-9)*

***Рэфрэн: У жыцця краіне буду бачыць Бога***

Люблю Госпада, бо пачуў Ён *
Голас маёй просьбы ,
бо схіліў да мяне сваё вуха *
у дзень, калі Яго клікаў.

***Рэфрэн.***

Апляталі мяне путы смерці, †
я апынуўся ў сіллі Шэолю, *
трапіў у бядоту і засмучэнне.
Але назваў імя Госпада: *
«О Госпадзе, ратуй мне жыццё!»

***Рэфрэн.***

Ласкавы Госпад і справядлівы *
Бог наш міласэрны.
Госпад людзей простых аберагае: *
быў я знямоглы, і Ён мне дапамог.

***Рэфрэн.***

Бо збярог Ён ад смерці маё жыццё, *
вочы мае – ад слёз, ногі мае – ад упадку.
Буду хадзіць я ў прысутнасці Госпада *
у краіне жывых.

***Рэфрэн.***

# ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ЯКУБА

*(Як 2, 14-18)*

Якая з таго карысць, браты мае, калі хтосьці будзе думаць, што ён веруе, і не будзе здзяйсняць учынкаў? Ці сама вера здолее збавіць яго? Калі, напрыклад, у брата альбо сястры няма вопраткі ці не стае ім штодзённага хлеба, а хтосьці з вас скажа ім: «Ідзіце ў спакоі, абагрэйцеся і паешце да сытасці!» – але не дасце ім таго, што ім вельмі патрэбна для цела, – дык якая з гэтага карысць?

Гэтак і вера, калі б не была спалучана з дзеямі, яна была б мёртвая сама па сабе. Але нехта можа сказаць: «Ты маеш веру, а я выконваю дзеі. Пакажы мне сваю веру без дзеяў, дык я пакажу маю веру з маіх дзеяў». Верыш, што ёсць адзіны Бог? Добра робіш, бо таксама і злыя духі вераць і дрыжаць.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Не дай Божа, каб я спадзяваўся на штосьці
акрамя Крыжа Хрыстовага,
дзякуючы якому свет стаў укрыжаваны дзеля мяне, а я дзеля свету.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

# ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 8, 27-35)*

Потым Ісус падаўся са Сваімі вучнямі ў вёскі каля Піліпавай Цэзарыі. У дарозе Ён пытаўся ў вучняў: «За каго людзі прымаюць Мяне?»

Яны адказалі Яму: «За Яна Хрысціцеля, іншыя – за Ілллю, яшчэ іншыя – за аднаго з прарокаў».

Ён спытаўся ў іх: «А вы за каго Мяне лічыце?»

Пётр адказаў Яму: «Ты – Месія». Тады Ён строга наказаў ім, каб нікому не гаварылі пра Яго.

І пачаў павучаць іх, што Сын Чалавечы павінен многа цярпець, што Ён будзе непрызнаны старэйшынамі, архісвятарамі і кніжнікамі, што будзе забіты, але праз тры дні ўваскрэсне. І гаварыў пра гэта зусім адкрыта.

Тады Пётр адвёў Яго ўбок і стаў пярэчыць Яму. Але Ён павярнуўся і, гледзячы на Сваіх вучняў, паўшчуваў Пятра словамі: «Сыдзі з Маіх вачэй, д'ябал, бо думаеш не пра Божае, а пра чалавечае».

Потым Ён паклікаў да Сябе натоўп разам з вучнямі Сваімі і сказаў ім: «Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай возьме крыж свой і няхай наследуе Мяне! Бо хто хоча зберагчы сваё жыццё, той загубіць яго; а хто загубіць сваё жыццё з-за Мяне і Евангелля, той зберажэ яго.

***Лектар:*** Гэта слова Госпада.

***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# АГЛОНА... ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛАТВІЯЙ

***8 верасня Касцёл адзначае свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. З гэтай нагоды ў адной з барысаўскіх парафій, якая носіць такі тытул, адбылася парафіяльная ўрачыстасць, у якой браў удзел Апостальскі Адміністратар***

Уначы група пілігрымаў падышла да алтара Маці Божай Аглонскай, каб прывітацца і падзякаваць за добрую дарогу. Сярод начы свяціліся толькі белы будынак касцёла, асвечаны пражэктарамі, і крыж насупраць святыні. У касцёле адбывалася святая Імша з удзелам моладзі. Гэта было першае знаёмства са святыняй.

І ўжо зранку, пасля начлегу, які нам прадаставілі гасцінныя латышы, распачалася наша «дарога» па Аглоне. Перш за ўсё, мы абышлі вакол санктуарыя, робячы своеасаблівае «кола гонару». Мы падышлі да галоўнага алтара, са шчырай малітвай пакланіліся Маці Божай Аглонскай, а спевамі перадалі прывітанне ад Беларусі латышскай зямлі. Абраз Маці Божай знаходзіцца над алтаром, да якой трэба паднімацца праз другі паверх. Пілігрымаў з Беларусі паважліва правялі да абраза. Падняўшы вочы ўгору, мы ў цішы звярталіся да Яе, захопленыя такой прыгожай выявай.

Пад святыняй знаходзіцца дольны касцёл з крыптай, дзе захоўваюцца астанкі біскупа Баляслава Слоскана. Мы пазнаёміліся з яго гісторыяй, якая яшчэ раз даказвае, наколькі цесна пераплятаюцца лёсы нашых краін, як Бог і вера не дзеляць людзей па нацыянальнаму прызнаку, а межы не патрэбны, каб атрымліваць ласкі духоўныя:

«Біскуп Баляслаў Слоскан нарадзіўся 31 жніўня 1893 года ў Сцірніене (Латвія) Рукапаложаны у сан святара 21 студзеня 1917 года ў Пецярбурзе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Пецярбурзе востра не хапала святароў, і Б.Слоскан пачаў сваю місію ў Расіі ў якасці вікарыя царквы св. Кацярыны. У 1924 годзе выконваў абавязкі вікарыя прыходу св. Варвары ў Віцебску. Па вяртанні ў Пецярбург працягнуў працу плябана прыходу ў касцёле св. Кацярыны.

У той час у Савецкім Саюзе не было ні аднаго каталіцкага біскупа. 10 траўня 1926 года Указам Папы Пія XI біскуп Мішэль д'-Эрбіні патаемна пасвяціў Баляслава Слоскана ў сан біскупа, які да таго часу набыў славу святара, напоўненага пашанай да Бога. Гэта адбылося ў Маскве, у храме св. Людовіка.

Біскуп Слоскан быў прызначаны Апостальскім адміністратарам Магілёўскай дыяцэзіі ў Мінскай вобласці. У гэты цяжкі час ганенняў на вернікаў біскуп бясстрашна выконваў свае абавязкі. Вернікі з захапленнем прымалі Яго Эксцэленцыю.



17 верасня 1927 года Слоскан быў арыштаваны Савецкай уладай і высланы на Салаўкі, дзе яму прыйшлося правесці 3 гады. Пазней біскупа выслалі яшчэ раз – у Сібір. Баляслаў Слоскан, арыштаваны па ілжывым абвінавачванні, прайшоў 17 вязніц, дзе падвяргаўся розным катаванням і здзекам: яго мучылі голадам, трымалі ў холадзе, збівалі. Цэлымі тыднямі ён ляжаў звязаным у камеры смяротнікаў у Маскве на Лубянцы, падуладны жорсткасці ахоўнікаў. Што ж дапамагала Баляславу Слоскану пераносіць найцяжэйшыя пакуты душы і цела? Яго глыбокая вера, малітва, разважанні над стацыямі Крыжовага Шляху Ісуса Хрыста, над таямніцамі Ружанца і заступніцтва св. Тэрэзы з Лізьё – усё гэта дало біскупу сілы вытрымаць у страшных выпрабаваннях.

У 1933 годзе ўрад Латвіі абмяняў Баляслава Слоскана на савецкага шпіёна. У Латвіі біскупа сустрэлі з захапленнем і выказалі яму глыбокую пашану як чалавеку, які перажыў чырвоны тэрор і не здрадзіў веры.

Пасля вызвалення Баляслава Слоскана Папа Пій XI прыняў яго ў Рыме як веравызнаўцу і накіраваў у краіны Еўропы сведчыць аб праследаванні веры ў СССР.

У 1934 годзе, вярнуўшыся ў Латвію, біскуп Слоскан працаваў у Рыжскай духоўнай семінарыі, а ў 1938 годзе выкладаў на тэалагічным факультэце Латвійскага універсітэта. Прафесар тэалагічнага факультэта быў дасканалым духоўным айцом для будучых святароў і прыкладам хрысціянскага служэння для вернікаў.

Ніколі не забываў аб верніках Мінска і Магілёва, яны заўсёды былі ў яго сэрцы, за іх ён безупынна маліўся і прыносіў духоўныя ахвяры.

Калі Беларусь і Латвію падчас Другой сусветнай вайны акупіравала нацысцкая Германія, біскупу не дазволілі вярнуцца да сваёй паствы. У 1944 годзе ён быў вывезены ў Германію, дзе і прабыў да канца вайны.

У канцы 1946 года біскуп Баляслаў Слоскан перасяліўся ў Бельгію і ў 1951 годзе атрымаў сталае месца жыхарства ў бенедыктынскім кляштары Кайзербергу ў Лувене. Біскуп спрыяў адукацыі латышскіх і беларускіх студэнтаў у Лувескім універсітэце, шматлікім дапамог стаць святарамі.

*Ала Неверовіч*

*Працяг будзе*

# ТРАДИЦИЯ МОЛИТВЫ

***В живой традиции молитвы каждая Церковь предлагает своим верным язык молитвы, в соответствии с историческим, социальным и культурным контекстом: слова, мелодии, жесты, иконографию.***

*Продолжение, начало в № 32.*

***Молитва Отцу.*** Нет иного пути христианской молитвы, кроме Христа. Наша молитва, будь она общинная или личная, изрекаемая или внутренняя, восходит к Отцу, только если мы молимся «во имя» Иисуса. Итак, святое Человеческое естество Иисуса есть тот путь, через который Дух Святой учит нас молиться Богу, нашему Отцу.

***Молитва Иисусу.*** Молитва Церкви, питаемая словом Божиим и совершением Литургии, учит нас молиться Господу Иисусу. Даже если она в первую очередь обращена к Отцу, она содержит – во всех литургических традициях – формы молитвы, обращенные к Христу. Некоторые псалмы, соответственно их введению в настоящее время в молитве Церкви, и Новый Завет вкладывают в наши уста и запечатлевают в наших сердцах призывы этой молитвы Христу: Сын Божий, Слово Божие, Господь, Спаситель, Агнец Божий,



Царь, Сын Возлюбленный, Сын Девы, Пастырь Добрый, наша Жизнь, наш Свет, наше Упование, наше Воскресение, Человеколюбец...

Но полноту смысла содержит имя, полученное Сыном Божиим в Его воплощении: ИИСУС. Имя Божие непроизносимо человеческими устами, но, принимая наше человеческое естество, Слово Божие вверяет это имя нам, и мы можем призывать его: «Иисус», «Ягве спасает». Имя Иисуса содержит в себе все – Бога и человека и все домостроительство творения и спасения. Когда в молитве мы говорим «Иисус», мы призываем Его, обращаемся к Нему в нас самих. Его имя одно только и содержит то Присутствие, которое Он знаменует. Иисус воскрес, и каждый, кто призывает Его имя, принимает Сына Божиего, возлюбившего его и за него принесшего Себя в жертву.

*Из Катехизиса Католической Церкви*

*Продолжение следует*

# ПАД ТВАЁЙ АБАРОНАЙ, МАЦІ

***Маленькім я быў ахрышчаны ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа. Гэта адбылося 23 ліпеня 1989 года.***

Як толькі пачаў хадзіць – першы раз у касцёл святога Сымона і святой Алены мяне прывяла бабця. Кожную нядзелю я прыходзіў з ёю на Святую Імшу. Таксама хадзілі да Катэдры Імя Святой Марыі – Божай Маці, калі маліліся яшчэ на вуліцы, а потым, калі святыню аддалі вернікам. Аб гэтым мне апавядала бабуля, калі я пайшоў у школу.

У касцёле св. Сымона і св. Алены я вучыў Катэхізіс у Марыі. У 1996 годзе быў разам з іншымі дзецьмі ў першай Святой Споведзі і Святой Камуніі. Вывучыў малітвы, а таксама навучыўся маліцца на Святым Ружанцы да Маці Божай. Стараюся часта разважаць над таямніцамі Ружанца, асабліва ў часе пастоў. У нядзелю і ў святы ходзім да касцёла.

Наша катэхетка Марыя павезла нас ў Будслаў, каб мы змаглі наведаць касцёл з цудоўным абразом Маці Божай Будслаўскай.

Цудоўны абраз Марыі ў Будслаўскай базыліцы, перад якім мы маліліся, крануў мяне: як любяць дзеці Маці Божую! Я ведаю, што Яна таксама мяне любіць і хоча, каб мы былі паслухмяныя, добра вучыліся, а галоўнае – маліліся Богу, давяралі Езусу і не грашылі.

29 мая 1999 г. разам з дзецьмі і ксяндзамі я ізноў наведаў касцёл у Будславе. Святую Імшу служылі ксёндз-пробашч Уладыслаў, ксяндзы Пётр і Мечыслаў.

Дзеці ўскладалі да абраза Маці Божай кветкі, спявалі, прымалі Святую Камунію. А Маці Божая паглядала на нас і, здавалася, што Яна усміхаецца нам, бо Ёй гэта было прыемна.

Яна выслухоўвае мае малітвы, просьбы аб добрай навуцы, здароўі ўсім дзецям, бацькам, людзям. Маці Божая любіць нас і аберагае ад хвароб і злога. Я жыву, расту і вучуся пад Яе абаронай.

Маці Божая Будслаўская, будзь маёй апякункай, самай дарагой для кожнага дзіцяці, а я заўсёды буду да Цябе звяртацца за дапамогай. Ты не пакінеш мяне ў бядзе.

**ДЗЯКУЙ ТАБЕ, МАЦІ БОЖАЯ БУДСЛАЎСКАЯ!**

*Уладзіслаў Лубянкоў, 11 год*

---

А сёння, 16 верасня **Уладзіслаў Лубянкоў** адзначае сваё 18-годдзе.

Таму молімся за яго здароўе і просім Бога ўсіх неабходных ласкаў і далейшага заступніцтва Маці Божай на шляху гэтага веруючага юнака!

